*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 19 (127) ◈ 12 траўня 1993 г. ◈ Кошт — па дамоўленасці.

## ПОСТУП ТЫДНЯ



### Збор подпісаў працягваецца

Як паведаміла газета дэмакратычных плыняў Прыдзвінска-Прыдняпроўскага краю «Выбар», рабочыя лакаматыўнага дэпо Віцебска працягваюць збор подпісаў пад зваротам да беларускага парламента. У звароце гаворыцца: «Народ Беларусі мае ўнікальную магчымасць, якая выпадае раз у некалькі стагоддзяў — будаваць сваю суверэнную дзяржаву. Нашу дзяржаву ўжо прызналі дзесяткі краін свету, з многімі ўстаноўлены дыпламатычныя адносіны.

Для таго каб быць роўнай сярод роўных, Беларусь павінна быць нейтральнай і бяз'ядзернай, умацоўваць двухбаковыя ўзаемавыгадныя эканамічныя сувязі як з Расіяй, так і з краінамі блізкага і далёкага замежжа. Любы ваенны саюз — гэта незлічоныя пакуты беларускага народа і згуба суверэнітэту Беларусі.

Прычына сённяшняга цяжкага эканамічнага становішча Беларусі — настойлівае нежаданне кіраўніцтва рэспублікі праводзіць эканамічныя рэформы ў інтарэсах шырокіх слаёў народа.

Пагэтаму мы лічым, што на агульнарэспубліканскі рэферэндум павінны быць вынесены наступныя пытанні: аб даверы Вярхоўнаму Савету; аб прыватнай уласнасці на зямлю; аб калектыўнай бяспецы.

◆◆

***9 ТРАЎНЯ БЕЛАРУСЬ АДСВЯТКАВАЛА 48-Ю ГАДАВІНУ ДНЯ ПЕРАМОГІ.*** *У сувязі са святам Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь вырашыў аказаць матэрыяльную дапамогу ветэранам Вялікай Айчыннай вайны ў памеры 6 тысяч рублёў і сем'ям ваеннаслужачых, якія загінулі ў гэтай вайне,— 3 тысячы рублёў.*

◆◆

**З ДВУХДЗЕННЫМ АФІЦЫЙНЫМ ВІЗІТАМ СТАРШЫНЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ НАВЕДАЎ РУМЫНІЮ.** Прэзідэнт Румыніі Іон Іліеску падкрэсліў, што прыезд С. Шушкевіча ацэньваецца як «важны момант» у развіцці кантактаў паміж дзвюма краінамі. У сваю чаргу кіраўнік Беларусі выказаўся за працяг пошуку шляхоў умацавання двухбаковага супрацоўніцтва ў цяперашнім пераходным перыядзе, у якім абедзве краіны «адчуваюць немалыя цяжкасці». Быў падпісаны дагавор аб дружбе, супрацоўніцтве і добрасуседстве.

◆◆

***5 ТРАЎНЯ РАБОЧАЯ ГРУПА КАНСТЫТУЦЫЙНАЙ КАМІСІІ ЗАВЯРШЫЛА РАБОТУ НАД ПРАЕКТАМ КАНСТЫТУЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ,*** *які плануецца ўнесці на разгляд чарговай 12-й сесіі Вярхоўнага Савета.*

◆◆

***ДА КАНЦА ПАДПІСНОЙ КАМПАНІІ ЗАСТАЎСЯ ЎСЯГО ТЫДЗЕНЬ.*** *Чым на кіёскі спадзявацца, лепш на «Наша слова» падпісацца. Вы з «Нашым словам» без сумнення будзеце ў курсе справы Адраджэння. Спяшайцеся!*

## Хто мацней: мафія ці народ?



15 красавіка ў Менску ля Дома афіцэраў адбыўся мітынг «Народ супраць карупцыі», на якім была прынята рэзалюцыя, у якой гаворыцца: «У Беларусі пануе мафія. Дзяржаўная камуністычная наменклатура самкнулася з крымінальнай мафіяй, раскрадае, «прыхватызуе» народнае багацце, пакідаючы народу жабрацтва і галечу. Антынародны ўрад і ВС не збіраюцца ажыццяўляць рэформы на карысць народа Беларусі.

Ратуючыся ад непазбежнага краху, яны прадаюць незалежнасць дзяржавы і цягнуць Беларусь у небяспечны для яе ваенны блок.

Мы патрабуем даць у вызначаны законам тэрмін праз сродкі масавай інфармацыі адказы на дэпутацкія запыты, падтрыманыя працоўнымі калектывамі.

Нагадваем, што ўсе справы, па якіх зроблены запытанні, з гэтага моманту знаходзяцца пад кантролем народа. Мы вернемся да гэтых пытанняў у належны час.

Спадзяёмся, што ў кіраўніцтва праваахоўных органаў знойдзецца рашучасць пазбавіцца ад карумпаваных асоб у сваіх ведамствах.

Патрабуем адстаўкі Кебіча, правядзення рэферэндуму аб роспуску Вярхоўнага Савета і новых дэмакратычных выбараў.

Патрабуем спыніць пераследаванне і звальненне з працы актывістаў і сяброў Свабоднага прафсаюза Беларусі і заяўляем, што будзем абараняць сваіх сяброў усімі даступнымі нам сродкамі».

Удзельнікі мітынгу прынялі і другую рэзалюцыю «Аб становішчы ў сродках масавай інфармацыі», у якой гаворыцца: Мы, удзельнікі мітынгу, рашуча пратэстуем супраць манапалізацыі Саўмінам сродкаў масавай інфармацыі рэспублікі. Аддзелы Саўміна ўзялі на сябе ролю аддзелаў ЦК КПБ і распараджаюцца інфармацыйнай прасторай Беларусі. Чарговым аб'ектам атакі наменклатуры стаў калектыў радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная», які рыхтуе праўдзівыя, аб'ектыўныя, прафесійна зробленыя перадачы.

Патрабуем спыніць цкаванне вольнага журналісцкага слова на Беларусі.

Патрабуем дэманапалізацыі прэсы і прадастаўлення пастаяннага эфірнага часу Свабоднаму Прафсаюзу і парламенцкай апазіцыі БНФ».

Фота Л. ЛІПЕНЯ.

## Барыс САЧАНКА: Ёсць першыя падставы для аптымізму

*На пытанні журналіста Святаслава Асіноўскага адказвае галоўны рэдактар «Беларускай энцыклапедыі» Барыс Сачанка.*

**— Барыс Іванавіч, вы толькі што ўзначалілі калектыў «Беларускай энцыклапедыі». Якія Вашы першыя пачуцці пасля таго, як Вы селі ў крэсла, што да Вас займалі Пятрусь Броўка, Іван Шамякін, Міхась Ткачоў?**

— Пачуцці супярэчлівыя і ў нейкай ступені пакуль не зусім пэўныя... Сіл і часу гэтая праца будзе забіраць багата.

**— Наколькі мне вядома, фінансавае становішча выдавецтва даволі складанае — яно знаходзіцца на гаспадарчым разліку і таму спадзявацца на дзяржаўныя датацыі Вам, відаць, не прыходзіцца. Таму хацелася б ведаць, з якімі праблемамі Вы сутыкнуліся ў першыя дні? Як «Беларуская энцыклапедыя» будзе жыць ва ўмовах рынку?**

— Якраз самае складанае сёння не толькі ў «БелЭн», а ва ўсіх выдавецтвах — як выжыць ва ўмовах рынку, захаваць творчыя калектывы, рабіць тую працу, якая вельмі ж неабходна дзеля адраджэння Беларусі. А хочацца ж не толькі выжываць, а жыць, нармальна працаваць. Складанасць нашага становішча, ды і становішча астатніх дзяржаўных выдавецтваў у тым, што мы не маем сваёй паліграфічнай базы. Даводзіцца са сваімі заказамі звяртацца да паліграфічных прадпрыемстваў, а заказы нашы не заўсёды выгадныя, малатыражныя. Трэба самім купляць паперу, іншыя матэрыялы, без якіх выпускаць кнігі нельга, а матэрыялы гэтыя ў Беларусі ў большасці не вырабляюцца. Канкураваць нам, дзяржаўным структурам, якія дзейнічаюць у рамках закона, з прыватнымі структурамі ва ўмовах «дзікага рынку» нялёгка. Словам, клопатаў, праблем шмат...

**— Дарэчы, чым выдавецтва парадуе чытача ў гэтым годзе?**

— Планы нашы вялікія. Назаву некалькі выданняў, што мяркуем выпусціць у гэтым годзе. Гэта перш за ўсё аднатомныя энцыклапедыі «Архітэктура Беларусі», «Археалогія і нумізматыка Беларусі», «Чырвоная кніга Беларусі», «Блакітная кніга Беларусі», першы том шасці-

*(Заканчэнне на с. 3).*

***МАГІЛЁЎСКАЯ АБЛАСНАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ БНФ ЗАРЭГІСТРАВАЛА СВАЮ РАДЫЁСТАНЦЫЮ.*** *Пачуць яе можна будзе не толькі ў вобласці, але і ва ўсёй краіне.*

✦

*На чарговым пасяджэнні Прэзідыума Савета Міністраў Беларусі вырашана адмовіцца ад расійскага вопыту «ваўчарызацыі» прадпрыемстваў, а правесці іх акцыяніраванне.*

✦

*У Доме кнігі па праспекце Машэрава ў Менску прайшла выстава «Беларуская кніга-92».*

# ЦІ АДБУДЗЕЦЦА ЦУД НАД

*(Успамін пра красавік 1991 года)*

Божа, як проста ўтрымліваць уладу ў краіне, дзе ў народа невысокі ўзровень не толькі нацыянальнай, але і грамадзянскай свядомасці! Нядаўняе гучнае адзначэнне ўгодкаў П. Машэрава навяло на гэткую думку. Калі б Пётр Міронавіч пажыў яшчэ гадоў дзесяць (загінуў ён выпадкова, ніякая мафія за ім не палявала), ці з'явіліся б на Беларусі Народны Фронт ды іншыя дэмакратычныя арганізацыі? Пэўныя спробы стварыць іх былі б, але ці здолелі б яны ўтрымацца пад напорам друку, радыё, тэлебачання, мясцовых улад і асабіста П. М. Машэрава?

Дагаджаючы Маскве, ён русіфікаваў Бацькаўшчыну, выкарчоўваў нацыянальную адукацыю, карыстаўся паслугамі несумленных навукоўцаў-грамадазнаўцаў, каб замацаваць накладзенае расійцамі табу на сапраўдную гісторыю Беларусі. Ён клапаціўся, як зараз сказалі б, пра свой імідж, таму спрабаваў сябраваць з таленавітымі пісьменнікамі, дазваляў выдаваць кнігі (праўда, з цэнзураваннем) Уладзіміра Караткевіча, падсаджваў на Парнас здольных музыкаў і мастакоў, не дапусціў украінскага варыянта рэпрэсій у сямідзесятыя гады. «Дэсідэнтаў» звольнілі са службы, збэсцілі, але не пасадзілі.

Відаць, ён усё ж здагадваўся пра амаральнасць «лініі», якую з пафасам адстойваў. Калі б у яго не было ў душы нечага светлага, то ён бы абавязкова дзе-небудзь недаравальна сарваўся, парушыў уяўны баланс паміж тым дрэнным і тым добрым, што тут рабіў. Я не кажу тут пра ліквідацыю «неперспектыўных» вёсак, гіганцкія свінакомплексы, гіганцкія хімічныя камбінаты і зборачныя заводы. Гэта яшчэ адзін аспект. Але гэта быў палітык, у адрозненне ад Малафеева або Ціхіні, што не адчувалі ні часу, ні грамадскай атмасферы, ні подыху гісторыі. Машэраў здолеў пакінуць пасля сябе міф.

Папулярнасць Машэрава як кіраўніка рэспублікі ў народзе, не горшыя чалавечыя якасці Кузьміна, Лабанка, Кляцкова, хоць нейкая падтрымка, якую яны аказвалі дзеячам нацыянальнай культуры, што траплялі ў няласку да перыферыйных апаратчыкаў або пільных «ідэолагаў», безумоўна, паралізавалі б многія памкненні дэмакратычных сіл.

Няма сумнення і ў тым, што надзелены маральным пачуццём і дзяржаўным розумам лідэр не стаў бы заяўляць (і палохаць), што адраджэнне роднага слова «мешает перестройке, воспитанию молодёжи», не стаў бы, відаць, утрымліваць карычнева-чырвона-карычневы «Политический собеседник». Пасля разгону «Дзядоў» абывацель не толькі вохкаў, але і дзівіўся: хто намі кіруе? Яны ж самі ствараюць апазіцыю!

У 1988 годзе нацыянал-камуністы, магчыма, здолелі б згуртаваць вакол сябе тых, каго адштурхнулі ад наменклатуры Я. Сакалоў і яго паплечнікі. Трагічны стан роднага слова і занядбанне гістарычнай спадчыны змусілі б адмовіцца і ад правоў чалавека, і ад барацьбы з партакратамі, калі б яны былі хаця такімі беларусамі, як будучы гэкачэпіст Пуга латышом.

На шчасце для Беларусі нацыянал-камуністаў было ў нас няшмат. Адзін сядзеў у гаркаме і яшчэ толькі авалодваў літаратурнай мовай, двое іншых спрабавалі пасябраваць з маладзёжнымі суполкамі, пакуль не ўгнявілі прымітыўных сталіністаў з суседняга гмаху. А між тым, у той час беларусізацыя «зверху» магла б ажыццяўляцца вельмі паспяхова. Чыноўнікі яшчэ слухаліся сваіх начальнікаў, начальнікі глядзелі ў рот патрону. Праўда, большыня чыноўнікаў Беларусі была дэградаванай масай, пазбаўленай нацыянальных пачуццяў. Памятаю справаздачу ў «Мінскай праўдзе» з нейкага актыву і словы аднаго апаратчыка: «Хто ў нас будзе чапляцца за герб «Пагоня», за ідэю нацыянальнага войска? Апазіцыя прыцягвае людзей, заклапочаных станам роднай мовы, а мы хочам усё пакінуць па-старому». Да герба і войска ён не дарос, але разуменне жыццёвай важнасці для народа мовы да яго прыйшло. І нават гэткі партфункцыянер быў у сваім асяроддзі белай варонай.

«Яшчэ таму ўзяў я гэту мову, што на ёй бяда, гора гаварыла»,— пісаў Максім Танк. «Паны» і на гэты раз не перайшлі на бок Адраджэння, пагрэбаваўшы нават мімікрыяй. Інстынкт палітычнага самазахавання не спрацаваў.

Мімікрыі не цураліся пэўныя дэмакраты. З якім імпэтам пераконвалі, угаворвалі, заклікалі абывацеля галасаваць за прафесара А. Жураўлёва хлопцы і дзяўчаты з розных суполак і Народнага Фронта, проста шчырая і зычлівая да новага і лепшага моладзь. На жаль, у А. Жураўлёва не выявілася нічога ні новага, ні лепшага. Усё старое, як свет, улучна з «нашим отечеством Россией!» Памятаеце, як ён «гукаў вясну» ў Крамлёўскім палацы з'ездаў?

А між тым, колькі сілаў ды сродкаў выдаткавала «Вандэя», каб перашкодзіць А. Жураўлёву стаць дэпутатам! На якой адмысловай паперы была надрукавана ўлётка з прачулымі словамі: «Беларусы! Наш гонар і годнасць хочуць запляміць! Жураўлёў з той жа хеўры, з таго ж БНФ, што і Пушкін, які заклікаў да пагромаў!» (тады шмат пісалі пра мастака А. Пушкіна). Дарэчы, тэкст улёткі быў на добрай беларускай мове. Ці не які-небудзь майстар слова падзарабляў у райкаме?

Гісторыя паўтарылася. Ужо цэлае сузор'е сталася дэпутатамі, дзякуючы наіўнасці адных, неабачлівасці іншых, агульнай слабасці дэмакратычнага руху, нацыянальнага жыцця. Да новых выбараў — рукой падаць, і бясспрэчна, што цяпер адным — проста нельга вылучаць у дэпутаты «вообще демократа», а другім — падтрымліваць яго, спадзеючыся, што ў сваёй абстрактнай гуманнасці ён не забудзецца і на беларускі люд. Забудзецца! Далучыцца да наменклатурных манкуртаў ды яшчэ абалье гразёю тых, хто яго з гэтай гразі выкалупаў.

Ды і дзіўна было б, каб адно вяршаліны ўлады закранула каламутная пошасць абыякавасці да Бацькаўшчыны. Сумна было мне гартаць новае выданне «К широкой оппозиции», якому далі жыццё вядомыя і аўтарытэтныя асобы. Ёсць і добрае на яго старонках, але ёсць і знаёмае па якіх-небудзь «Семи днях»: «Национал-патриоты» (у дачыненні да беларускіх адраджэнцаў), якім супрацьстаяць сапраўдныя дэмакраты, «поиски врагов в русском народе», якія нібыта вядуць адраджэнцы, адмыслова-выквінтнае (са смакам!) зневажанне ваякаў на грозных конях.

Не, гэта — не сябры. А сябры? Хіба за апошнія гады не сталіся мы сведкамі дзіўных паводзін некаторых здольных і таксама вядомых асоб? Ці радасна чуць, як учарашні барацьбіт жаласліва бароніць ВС ды спіхвае віну за рэзрух і бязладдзе на Саўмін: маўляў, толькі яго і распускайце? Ды цябе, братка, зубілам не выб'еш з Вярхоўнага Савета, нават калі той трохмоўе ўзаконіць. Паблажліва ўхмыляюцца дзябёлыя выканкамаўцы: бядняк — смешны. Вычуваным нюхам, як сказаў бы доктар Янка Запруднік, яны адчуваюць «сацыяльна блізкі» элемент. Хоць і чужы, а свой.

Дзяржаўная друкарня забяспечвала кампанію і супраць пісьменніка Б. Сачанкі, калі ТБМ вылучыла яго кандыдатам у народныя дэпутаты ВС. Шмат бруду было ў з'едлівай «біяграфіі» празаіка, кінутай у паштовыя скрынкі. Невядомыя (гм...) біёграфы далучалі да гэтага дасье і кампрамат на прафесара В. Акулава, які таксама вылучаўся ў дэпутаты па той акрузе. Не чапалі М. Марыніча. Ён і з'яўляецца зараз народным дэпутатам. Бароніць ён матчына слова? Ну, а В. Акулаў бараніў бы?

У імкненні (паспяховым) ашальмаваць Б. Сачанку людзей пераконвалі, што «ў цяжкія застойныя гады ён маўкліва пагаджаўся з вынішчэннем роднай мовы», хоць якраз у пэўных установах добра ведалі, што першым у абарону мовы ў шасцідзесятыя гады выступіў ён. Там жа добра захаваліся падшыўкі «ЛіМа»!

Заўважце: наменклатура падстаўляла падножку і тым, да каго на словах ставілася няблага. Кіраўнікі ТБМ, беспартыйныя і партыйныя на той час працаўнікі беларускай культуры разглядаліся тымі, хто стаяў ля стырна, як непажаданыя ў органах вышэйшай улады элементы.

Спачатку падкраўся, а потым грымнуў жнівень 1991. Здавалася б, логіка падзей змушала абкамаўцаў і райкамаўцаў убрацца ў вышываныя шаты ды падперазацца пасамі з кутасамі, стварыць ілюзію «класавага міру» ў «нашым ціхім краі», навыперадкі адчыняць ды запісвацца на курсы беларусазнаўства. Маючы хай не дужа моцную, але згуртаваную палітычную апазіцыю, абласныя і раённыя князькі павінны былі б утварыць наменклатурны хаўрус з выразна акрэсленым незалежніцкім абліччам. Вядома, з пэўнай аглядкай на сваю сацыяльную базу, а гэта ў ладнай меры: расійцы-вайскоўцы, расійцы-ўпраўленцы, расійцы-адстаўнікі, дэнацыяналізаваная мешчанота. Умеркаваная (шыльда) нацыянал-камуністычная партыя не была б пудзілам і для значнай часткі інтэлігенцыі.

Так, аднак, не сталася. Велізарная большыня наменклатуры была не ў стане змяніць свой унутраны статус правінцыйных «тутэйшых» расійцаў. Ніякага «Беларускага войска» — Узброеныя сілы Рэспублікі Беларусь, ніякага «Камітэта нацыянальнай бяспекі» — Камітэт дзяржаўнай бяспекі і г. д. Наіўна было чакаць перараджэння абаронцаў Саюза ў шчырых тутэйшых, але цалкам лагічным выглядаў бы старанны камуфляж, які збіваў бы абывацеля з панталыку, каб той не мог адрозніць, дзе БНФ, а дзе Рада міністраў, дзе нацыянал-дэмакрат, а дзе «беларускі» генерал з-пад Тамбова.

І гэтага не здарылася. Таму такім безнадзейна-спозненым выглядаў візіт у Мір прэм'ера Кебіча, дзе ён выступіў з цікавай і разумнай прамовай. Але пасля сумна вядомай сесіі Вярхоўнага Савета, на якой рэй вялі саўмінаўскія чыноўнікі-дэпутаты.

Няздатнасць наменклатуры Беларусі жыць сваім адумам робіць беспадстаўнымі спадзяванні асобных груповак на прэзідэнцкія выбары, перамогу на іх годнага лідэра. Па-першае, тыя, хто закасаваў закон адзін раз (лёс рэферэндуму), перакрэсляць яго двойчы і тройчы. Да таго ж падчас апошніх выбараў бюлетэні «губляліся» і часам «знаходзіліся», запаўняліся пабочнымі асобамі, сябры выбарчых камісій дзе-нідзе наведвалі кабіны для галасавання трохі радзей за выбаршчыкаў і г. д. Непрымальнаму для наменклатуры кандыдату ўзбіцца на прэзідэнта будзе неверагодна складана.

Рэферэндум шахнулі, але новыя выбары могуць адбыцца яшчэ раней, чым мы думаем. Інфляцыя збядняе народ штодня, сярэдняга слою, лічы, ужо няма, люмпенамі сталіся навукоўцы і творцы. Ці будзе лета (або восень) 1993 года адрознівацца ад красавіка 1991?

Чым павольней паўзуць цэны ўгору, тым вастрэйшы пратэст выспявае ў грамадстве, тым большы будзе выбух: ад стоенага пературпелага абурэння. Наш народ не прывык да валагодскай беднасці, да жабрацтва, якое на яго насоўваецца. Да таго ж побач — Польшча, беларусы бачаць, як добра (у параўнанні з намі) там зажылі: без камуністаў, але не на словах, а на справе.

Ці наладзяць такое жыццё ўлады, якія рэанімавалі КПБ — КПСС? І ці для гэтага яны яе ажывілі? Адмоўную грамадскую рэакцыю мусіць выклікаць няспыннае эканамічнае і палітычнае збліжэнне з Расіяй, ахопленай цяжэзным крызісам. Невысокі ўзровень нацыянальнай свядомасці народа гарантаваў бы ўладам спакой і поспех паўзучай дэсуверэнізацыі, калі б... Калі б тая ў сваю чаргу гарантавала рабочаму люду высокія заробкі, утульныя дачныя домікі, навюткія легкавічкі. Чыкінская бабулька-пенсіянерка трасе плакацікам «Наше спасение в единстве с Россией», і гэтага ёй дастаткова для самапавагі, сябе яна ўжо лічыць «спасённой». Маладому дужаму і працавітаму хлопцу з «Гарызонта» або «Інтэграла» трэба рэальнае пацвярджэнне пакуль што цалкам фантастычнага лозунга. Насуперак міфу аб глыбокім піетэце, які нібыта адчуваюць беларусы да Расіі, аўтарытэт магутнай суседкі ў народным беларускім асяроддзі вельмі нізкі. Расія (так, гэта не зусім справядліва) для нашага земляроба і работніка — закінутыя і занядбаныя вёскі, п'янства і лайдацтва. Наменклатура Беларусі здолела прышчапіць беларусу пачуццё непаўнацэннасці («у нас нет ресурсов, нет угля, сами мы не проживём»), але гэты комплекс жыццяздольны толькі ў сытым арганізме, ды яшчэ калі чалавек няблага апрануты і абуты. У іншым выпадку абкатаная дэмагогія не спрацоўвае. Сумленны і цярплівы вясковец, які набыў у Менску або Бярэсці спецыяльнасць, заклаў тут сям'ю і меркаваў, дзякуючы свайму ўменню і рупнасці, зажыць заможна (па яго мерках), а цяпер не можа з'есці яйка — неспрыяльная глеба для таннай дэмагогіі каланізатараў ды іхніх прыганятых. Ды апошні гультай і няздара ў вёсцы, адкуль гэты хлопец родам, снедаў лепей, як ён, з яго «разрадамі», снедае цяпер. Набор прапагандысцкіх клішэ ўладамі вычарпаны. Са здзіўленнем днямі глядзеў саўмінаўскую прэс-канферэнцыю, якая пачалася плачам: «Из-за повышения Россией цен на энергоносители повышаем цены и мы», а скончылася саламонавай высновай: «Поэтому (?!) мы будем переориентировать нашу экономику на Россию». Цябе цягнуць у ваду, тапіць, а ты думаеш, як бы гэта стаць лягчэйшым, каб ім лягчэй было цягнуць.

Кампанія за наданне расійскай мове статуса дзяржаўнай абвастрыла нацыянальныя пачуцці ўжо даволі значнай часткі грамадства. Гэта можа надаць новаму народнаму выбуху непараўнальна глыбейшае вымярэнне і гучанне, чым было ў красавіку 1991, цалкам верагодна, што побач са знаёмым «Рынкавай эканоміцы — рынкавую зарплату» на плакатах з'явяцца і «брудныя лапы, што вырываюць з вуснаў дзяцей згасаючыя гукі нашай мовы» (Пётр Безруч).

Іншы міф, узгадаваны савецкай школай, друкам, кінематографам, пусціў учэпістае карэнне. Маю на ўвазе «ўсенароднае змаганне з нямецка-фашыстоўскімі захопнікамі на Беларусі», міф на дзіва наіўны, але ўстойліва-трывалы. Міне яшчэ добры дзесятак гадоў, перш як масавы чытач і глядач партызанскіх эпапей задасць сабе простае пытанне: навошта недабітыя і недамучаныя расійскімі бальшавікамі беларускія сяляне губілі жонак і дзетак, нападаючы на ўзброеных да зубоў нямецкіх жаўнераў? Няўжо тыя палітрукі, што сілком выцягвалі іх з хатаў і гналі ў лес «защищать советскую родину», вартыя пашаны? Ці не гэткія ж «организаторы и вдохновители» лезуць сёння ў друк і эфір з «обоснованием необходимости»

ПОШУКІ І ЗНАХОДКІ

# Хто такі Тодар ЛЕБЯДА?

*Сяргей ЧЫГРЫН*

*(Працяг. Пачатак у № 18).*

Так Пятро Шырокаў дабраўся да Віцебска, дзе жыла яго маці. Тут ён пісаў вершы, апавяданні і драматычныя творы. Тут была закончана і п'еса «Загубленае жыццё». Дарэчы, у 1943 годзе беларускі рэжысёр Вячаслаў Селях-Качанскі ажыццявіў пастаноўку гэтай п'есы на сцэне Менскага гарадскога тэатра. Пазней, на эміграцыі ў Германіі, разам з кампазітарам Міколам Равенскім ён арганізуе эстрадную групу «Жыве Беларусь», ставіць на сцэне «Загубленае жыццё» Тодара Лебяды. Вяртаецца да яе В. Селях-Качанскі і жывучы ў г. Элізабет (ЗША). А ў 1952 годзе ў Канадзе п'еса «Загубленае жыццё» выходзіць з друку асобным выданнем.

У акупіраваным немцамі Віцебску Пятро Шырокаў рэгіструе шлюб з артысткай Верай Жгут. Ён таксама падтрымлівае цесныя сувязі з беларускімі акцёрамі і пісьменнікамі.

У 1944 годзе выходзіць яго першы паэтычны зборнік «Песьні выгнаньня». Ва ўступе да яго напісана: «Беларускі народ многа перацярпеў гора і зьдзеку. Найбольш, аднак, прыйшлося цярпець за часоў бальшавіцкага панаваньня. Бальшавікі, накідаючы сваю волю беларускаму народу, жорстка прасьледавалі ўсіх тых беларусаў — сялян, работнікаў, інтэлігентаў, якія хацелі наладжваць жыццё ў Беларусі так, як хацеў беларускі народ. Бальшавікі саджалі беларускіх патрыётаў у вастрогі, канцэнтрацыйныя лагеры, высылалі ў далёкія азіяцкія краіны, адкуль бальшыня з іх ніколі ўжо ня вернецца, бо яны не змаглі перажыць бальшавіцкіх зьдзекаў і тых жудасных абставінаў, у якія іх укінулі бальшавікі, і злажылі сваё жыцьцё, як ахвяру, на алтар Бацькаўшчыны. Есьць, аднак, і такія людзі, якім удалося перажыць бальшавіцкія зьдзекі, вырвацца з бальшавіцкіх кіпцюроў і зьявіцца ізноў на беларускую ніву да працы дзеля дабра беларускага народа. Да гэткіх шчасьліўцаў належыць між іншых малады беларускі паэт Тодар Лебяда. Яму ўдалося вырвацца з бальшавіцкіх рук, захаваць жыцьцё, і цяпер ён плодна працуе на беларускай культурнай ніве. Ён, між іншым, напісаў п'есу з беларускага жыцьця з часоў бальшавіцкіх п.н. «Загубленае жыцьцё» і ўлажыў зборнік сваіх вершаў п. н. «Песьні выгнаньня», якія былі напісаныя пераважна на высылцы і якія зьмешчаны ў гэтай кніжцы. Зборнік гэты мае вялікія мастацкія вартасьці і ёсьць дакумэнтам тых усіх жудасьцяў, якія мусілі перажыць беларусы ад бальшавікоў і да паўтарэньня якіх беларускі народ ніколі ня можа дапусьціцца». Каментарый, я думаю, тут не патрэбны.

У 1944 годзе, у час адступлення немцаў, Тодар Лебяда рашыў уцячы на Захад. Ён добра ведаў і адчуваў, што яго зноў чакае турма, зноў чакаюць рэпрэсіі. Таму спачатку быў Берлін, а пасля Прусія, дзе ён, разам з жонкаю Верай Жгут, уладкоўваецца на працу да аднаго баўэра. Разам з імі быў і Уладзімір Клішэвіч. Як жылося і працавалася ім там, сведчыць адзін ліст Тодара Лебяды да Масея Сяднёва, які збярогся да сённяшняга дня: «Здароў Масей! Сёньня атрымалі ад цябе першы ліст і былі бясконца рады. Малайчына, што не застаўся ў Беластоку! Аб нас ты ўжо напэўна тое-сёе чуў. Жывем з Валодзькам (Клішэвічам. — С. Ч.) у аднаго баўэра, працуем у яго: косім, чысьцім гной і г. далей, за што маем ад яго кавалак хлеба. Калі казаць аб нашым жыцьці, дык пра ўсё можна выказаць адным словам—сытыя. Больш нічога. Ніякай духоўнай стравы. Рана ўстаем, ідзем на працу, прыходзім з працы — вячэраем і кладземся спаць, каб заўтра ісьці ізноў на працу. Гэтак сама жыве і Віцьбіч. Ён толькі за чатыры вярсты ад нас. Пісалі мы некалькі лістоў у Бэрлін, але адказу не атрымалі, чым яшчэ раз пацьвярджае думку аб нашых беларусах: калі сам сыты, дык аб галодных не спагадае. Я гэта адчуў яшчэ на Бацькаўшчыне, а цяпер гэта лішні раз толькі пацьвярджаецца. Мы — беларусы такімі адносінамі (панскімі) да людзей дабіліся таго, што нам ужо мала хто й верыць, аб чым бы мы не казалі.

Вось мы сёньня радуемся з Валодзькам, што ты зараз у Бэрліне. Ты — не такі, як нашыя астатнія беларусы. Будзем спадзявацца, што ты дзе-небудзь, калі-небудзь і закінеш там за нас слова. Галоўнае — гэта каб ты не забываўся пра нас і пісаў бы нам лісты, дасылаў газэты (як мага акуратней) і па магчымасьці іншую літаратуру, бо мы зараз анічога ня маем. Атрымалі адзін нумар «Раніцы» ад сп. Караленкі, за што вельмі шчыра яму ўдзячны.

Учора я пахаваў сваё дзіця. Пасьля ўсяго вельмі дрэнны настрой. Мы з Валодзькам разабралі наш ложак і зрабілі майму сыну маленькую дамавіну. Цьвікоў нацягалі са сьцен і з старых дошак.

Яшчэ раз просім цябе — пішы нам. Мы будзем пісаць як найчасьцей. Бывай здароў! Твае Пятрок і Валодзя Клішэвіч.

Калі ты ўведаеш аб нашых паэтах Л. Случчаніну, Золаку, Алесю Салаўю або ўведаеш, дзе зараз П. Манькоў, не забывай паведаміць. Устрой, Масей, для мяне, калі ласка, у «Раніцу» аб'яву: Шукаю дачку Аляксандру Шырокаву — 8 год і маці Анастасію Паедаву, якія апошнія часы знаходзіліся ў мястэчку Лентварова Віленскай акругі. Паведаміць праз газэту «Раніца» — Тодару Лебядзе. Аб'яву гэтую перарабляй як хочаш. Я падаў толькі сэнс. Тодар Лебяда».

Цяжка сказаць, ці была гэтая аб'яўка ў «Раніцы», а вось невялікая рэцэнзія М. Сяднёва на зборнік «Песьні выгнаньня» была ў свой час надрукавана ў «Новай (беластоцкай) дарозе».

Пасля Прусіі сляды Пятра Шырокава на пэўны час губляюцца, хадзілі толькі чуткі, што ён, сагітаваны савецкім афіцэрам, вярнуўся да Басі Ціпінай і да сваёй дачкі Алесі. Але гэтае вяртанне шчасця яму не прынесла. У маі 1947 года ваенным трыбуналам войск МУС Менскай вобласці па арт. 63-1 УК БССР Шырокаў Пётр Фёдаравіч зноў быў асуджаны, але на гэты раз на 25 гадоў.

У якіх раёнах Сібіры адбываў свой тэрмін беларускі літаратар Тодар Лебяда, пакуль невядома. Вядома толькі адно, што 30 жніўня 1956 года ён быў вызвалены з-пад варты, але ў Беларусь вяртацца яму не дазволілі, таму прыйшлося ўладкавацца цырульнікам у адзін з пасялковых дамоў афіцэраў, а таксама працаваць на іншых работах. І толькі ў 1960 годзе ён прыязджае ў Слонім. Тут адразу стаў працаваць рэзчыкам паперы на кардоннай фабрыцы «Альбярцін». А ў вольны ад працы час Тодар Лебяда шмат пісаў. Пісаў вершы, апавяданні і п'есы. Сёе-тое надрукаваў у слонімскай раённай газеце «Вольная праца». Але пра свой псеўданім Пятро Шырокаў нікому не казаў, а таксама пра выдадзеную ім у 1944 годзе кнігу вершаў. Быў заўсёды маўклівы і даволі просты. Вельмі хацеў на фабрыцы стварыць драматычны гурток, каб ставіць свае п'есы. Дарэчы, у Слоніме ён напісаў п'есу ў трох актах «У нас, на Гродзеншчыне», прысвечаную вясковаму жыццю. У гэты час было напісана і некалькі аднаактовых п'есак. Адна з іх — «Людзі ва Хрысце» была надрукавана ў райгазеце «Вольная праца».

Тодар Лебяда быў і добры апавядальнік. Асабліва яму ўдаваліся гумарыстычныя апавяданні і абразкі на маральна-этычныя тэмы.

Жывучы ў Слоніме, Пятро Шырокаў пачынае шукаць сваіх сяброў, у першую чаргу Уладзіміра Клішэвіча. Былы рэдактар беластоцкага беларускага тыднёвіка «Ніва» Георгій Валкавыцкі захаваў і перадаў мне нядаўна пісьмо П. Шырокава ў «Ніву», дзе ён, у прыватнасці, пісаў: «Паважаная рэдакцыя! Праглядаючы архівы Вашай газеты за мінулыя гады, я знайшоў у ёй надрукаваныя вершы майго блізкага сябра па інстытуту Уладзіміра Клішэвіча, якога я лічыў загінуўшым у часы Другой сусветнай вайны. А быў бы я Вам вельмі ўдзячны, калі б Вы паведамілі мне аб яго цяперашнім месцажыхарстве альбо даслалі яму мой хатні адрас: БССР, Гродзенская вобл., г. Слонім, пас. Альбярцін, вул. 17 верасня, д. 3. З нецярпеннем чакаю Вашага адказу. З пашанай — Шырокаў Пётр Фёдаравіч. 2.V.61 г.»

Просьба яго была рэдакцыяй выканана. Уладзімір Клішэвіч і Тодар Лебяда знайшлі адзін аднаго. Яны перапісваліся, бо ў адным з пісьмаў да Клішэвіча Пятро нават хваліўся яму, што стаў ужо дзедам...

1 студзеня 1962 года Пятро Шырокаў звольніўся з работы і назаўсёды пакінуў Слонім. Як склалася яго далейшае жыццё, пакуль невядома. Ці жыве Тодар Лебяда, ці не — таксама цяжка сказаць. Яго сябра па студэнцкіх гадах Масей Сяднёў напісаў: «Пятрок мо недзе жыве яшчэ, шукайце яго далейшых сьлядоў, калі ласка. Буду Вам моцна ўдзячны, калі Вы адшукаеце нешта новае пра Тодара Лебяду і паведаміце мне. Шырокаў — чалавек зацяты і ўпарты — будзе маўчаць, не заяўляць пра сябе. Але Пятрок Шырокаў добры, залаты чалавек, таварыскі і пасьлядоўны...»

Вельмі хочацца верыць, што хутка гэтая загадка будзе разгадана, бо пошукі працягваюцца. Працягваюцца, каб адкрыць яшчэ адно невядомае імя ў беларускай літаратуры.



*Але!*

## Не верце розным «дабрадзеям»!

Менавіта ў лёсе нашага беларускага народа, як у люстэрку, мы бачым лёс кожнага з нас. І пра каго б мы сёння ні гаварылі, каго б ні слухалі — усё гэта невялікія «люстэркі», якія складваюць адно вялікае цэлае. Доўгі час многія падзеі ў жыцці нашага народа, лёсы людзей, якія былі звязаны з гэтымі падзеямі, заставаліся ў каменных сховішчах. Але праўда рана ці позна ўсё роўна выйдзе на паверхню.

Гісторыя пакінула нам шмат пытанняў. Дзе сёння можна знайсці адказы на іх? Вядома, па-першае, у патаемных паперах сакрэтных установ КДБ, МУС, па-другое, у сховішчах архіваў, бібліятэк, у кнігах і газетах, у часопісах, музеях г. д.

Сёння кожнаму з нас патрэбна вызначыць свае адносіны да гісторыі, бо вырашаецца лёс нашай Бацькаўшчыны, а значыць, і лёс кожнага з нас. Але, на жаль, сярод нашага народа большасць людзей сталі абыякавымі да гісторыі сваёй сапраўднай Айчыны, сталі інфантыльнымі ў адносінах да Адраджэння. Гэтая абыякавасць закладзена ў беларусаў не сёння і не ўчора. Нашы «дабрадзеі» тут шчыравалі на працягу паўтысячы гадоў, каб мы, свабодная, незалежная нацыя, згубілі ўсё сваё. Адабралі ў нас сваю гісторыю, адабралі мову, культуру. Гэтыя «дабрадзеі» і сёння адбіраюць усё дарагое, што яшчэ засталося ў нас. Яны па-ранейшаму жадаюць кіраваць намі.

Цёмная, змрочная сіла, якая панавала над намі, не загінула і ў жнівеньскія дні 1991 года. Яна пачала адраджацца, распаўсюджвацца на Беларусі. Гэтай сіле не даспадобы, што ў Рэспубліцы Беларусь ёсць свая дзяржаўнасць, нацыянальная мова, свая культура, свая гісторыя.

Кожнаму трэба ўсведамляць, што ў любой арганізацыі і ўстанове ёсць былая камуністычная наменклатура, якая і сёння душыць свежую ініцыятыву, душыць нашы памкненні, душыць для таго, каб мы па-ранейшаму заставаліся быдлам. Не верце гэтым «дабрадзеям»!

Але, дзякуй Богу, ёсць у начальніцкіх кабінетах ужо і новыя людзі, якія разумеюць сапраўдныя беды нашага простага, працавітага люду! За такімі кіраўнікамі людзі пойдуць, такіх заўсёды падтрымаюць!

Мікола СІДАРЭВІЧ.
в. Пасадзец
Лагойскага раёна.

# Вучымся!

*Урок шаснаццаты*

*Вайскоўцам пра родную мову*

## ФАНЕТЫЧНАЯ РАЗМІНКА

1. Прачытайце скорагаворку, запомніце. Прагаварыце хутка тры разы.

Хвошча, хвошча дождж.
Воўк схаваўся ў хвошч!
Хвост пад хвашчом,
А воўк пад дажджом.

*В. ВІТКА.*

2. Прачытайце словы, звярніце ўвагу на вымаўленне выдзеленых спалучэнняў зычных.

Падгарнуць
падхапіць
абсыпаць
адкінуць
адказаць
надламаць
надтачыць

разбіць
рассыпаць
раззлавацца
сказаць
збіраць
спісаць
змераць

3. Прачытайце вершы, захоўваючы правілы вымаўлення галосных, зычных ды іх спалучэнняў.

### Толькі голас

Неба жураўлінае, журботнае,
Цёмная вільготная зямля.
Птушка ты балотная, адлётная!
Бачылі вы зблізку жураўля?
Можа, добра, што не бачылі
намоклага,
Смешнага... Цяжкі птушыны быт...
Толькі неба ды курлыканне
нязмоўклае,
Толькі вочы, толькі голас ды
блакіт.

*П. ПАНЧАНКА*

### Зязюля

Зязюля, што ў цябе за сіла —
Усіх нас вабіш варажыць,
Гадоў мне столькі налічыла,
Што я й не здолею пражыць.

І нездарма твой любіць голас,
Тваё куванне ўвесь народ,
Пакуль не высыпецца колас
І змоўкнеш ты ізноў на год, —

Бо ты куваеш і жадаеш
Дабра для ўсіх — малых, старых...
Вось за адно не паважаю —
Дзяцей кідаеш ты сваіх.

*П. БРОЎКА.*

## ПАЎТАРЭННЕ ВЫВУЧАНАГА

*1. Прачытайце прыказкі і прымаўкі, растлумачце правілы вымаўлення выдзеленых слоў.*

У дрэнную пагоду добры *гаспадар* і сабаку з двара *не гоніць*. Усе птушкі крылы маюць, ды *не ўсе* лятаюць. Рак *не рыба*, а кажан *не птушка*. Вала завуць *не ў госці*, *не мёду* піць, а ваду вазіць. *Не рыба*, што *ў рэчцы*, а рыба, што *ў ручцы*. На лечаным кані *не наездзішся*. Воўк блізка шкоды *не робіць*. І сабака на таго *не брэша*, чый хлеб есць. Конь каню *не роўны*. Жолаб да каня *не ходзіць*. Кармі каня *не пугай*, а сенам з лугу. Воўк казе *не таварыш*. *Не першы* раз ваўку ў лесе зімаваць.

*2. Прачытайце выразна тэксты, перакажыце, захоўваючы правілы вымаўлення галосных, зычных і іх спалучэнняў. Дайце ім загалоўкі.*

### ВАРЫЯНТ I

Даўней у нашым краі лясоў было шмат, але вялізны лясны абшар на беларускім Падляшшы асабліва вабіў людзей. Даволі рана гэтыя некранутыя лясы атрымалі назву — Белавежская пушча. Тады там пасвіліся шматлікія, нелічаныя статкі зуброў, дзікіх лясных коней — тарпанаў, тураў ды іншых, драбнейшых, жывёл. У зарасцях таіліся собалі, расамахі, дзікія лясныя каты — іх ужо няма ў сучасным запаведніку. Але ўсё ж тут захавалася 14 відаў жывёл, якія занесены ў Чырвоную кнігу нашай рэспублікі, 110 рэдкіх раслін. То заслуга нашых пращчураў, якія зразумелі адметнасць гэтага кутка прыроды і áберагалі яго.

Ужо ў XIII стагоддзі ў Белавежскай пушчы абмежавалі паляванне. У 1541 годзе тут дзеля аховы зуброў быў створаны паляўнічы заказнік, а праз сто гадоў забаранілі секчы пушчанскі лес. Тады ж Леў Сапега склаў першае апісанне Белавежскай пушчы...

*Паводле энцыклапедычнай бібліятэчкі «Беларусь».*

### ВАРЫЯНТ II

Над усёй нашай краінай, наставіўшы белыя ветразі крылаў, кружаць буслы. Іх шмат, тысячы — хто лічыў? На стрэхах сялянскіх хат, на дрэвах, на сценах старых разбураных палацаў, на слупах сярод маладога зялёнага жыта — гнёзды паўсюль.

Да пэўнай ступені бусел — сімвал Беларусі. Ёсць, вядома, буслы і ў іншых заходніх краінах, ёсць яны і на поўдні. Але на ўсход ад Беларусі, калі не лічыць Сярэдняй Азіі, яны ўжо амаль не водзяцца. Вось так і плануюць, плануюць буслы.

І таму мне здаецца, што Беларусь можна назваць «зямлёю пад белымі крыламі».

*Паводле У. КАРАТКЕВІЧА.*

### ВАРЫЯНТ III

Ох, як спявае вясною Белавежская пушча! Вучоныя прызналі, што белавежскія салаўі самыя галасістыя. А тут яшчэ больш за дзвесце відаў розных птушак. Уявіце сабе, які штодня тут адбываецца канцэрт!

Праўда, не ва ўсіх птушак ёсць голас. Івалга свішча звонка з пералівамі, а цецярук балбоча. Перагукваюцца адна з адной зязюлі.

Шпак умее пераймаць галасы іншых птушак, а можа і паказаць, як пільшчыкі пілуюць тупой пілой дровы. Вялізная сава — няясыць вухкае, аж мароз па скуры ідзе, а чорны бусел, вельмі рэдкая птушка, зусім маўчыць, зашыўшыся ў самыя глухія нетры.

Умейце слухаць птушак і пазнаваць кожную па голасе.

*У. КАРАТКЕВІЧ.*

*3. Прачытайце тэкст паводле Я. Пархуты і спішыце. Растлумачце правапіс* ***у — ў.***

Да буслоў у нас адносіліся з нейкай пяшчотнай павагай. Кожны стараўся, каб на яго котлішчы жыла гэта птушка. Лічылася нават, што тады хату міне маланка, што ў сям'і будзе шчасце.

Але тое было калісьці. Асушылі суседнія балоты, выпрасталі рачулкі, спусцілі ваду — і буслы пакінулі вёску.

...Палявой дарогаю вяртаюся дадому. Хмарна. Цярусіць дождж. На ўскрайку раллі заўважаю бусла. Мурзаты і ўсё роўна як сонны хадзіў ён пад дажджом.

На душы зрабілася прыкра. Бусел месіць гразкую раллю і здзіўляецца: «А што сталася, пакуль быў у выраі?» Мы, часам, такое пытанне і не задаём сабе.

4. Прачытайце і спішыце тэкст паводле Р. Ігнаценкі. Растлумачце напісанне выдзеленых слоў.

Любоў да *радзімы* ў чалавека асабліва яскрава *праяўляецца* тады, калі ён разлучаецца з ёю. І чым *даўжэй* ён будзе недзе далёка, тым мацней *будзе* сумаваць. Але чалавек здольны хаваць сваё *пачуццё*. А вось у птушак *усё* гэта навідавоку.

Возьмем усім нам знаёмых *жураваў*. На радзіме яны, апрача глухога балота з *іржавай* вадой ды *драбналесся*, нічога за сямейнымі клопатамі не *бачаць*. У далёкіх жа краях птушак чакае багаты корм, залітыя *паўднёвым сонцам* берагі *маляўнічых рэк* і азёр. І *ўсё* ж, нягледзячы на гэта, *восенню* пакідаюць жураўвы радзіму вельмі неахвотна.

Паволі *пралятаючы* над вёскамі і пустымі палямі, яны раз-пораз падаюць свае сумныя галасы — *цяжка* з роднай *зямлёй* развітвацца.

*5. Прачытайце і запомніце выразы, пабудуйце з імі дыялогі.*

* У Белавежскай пушчы ўдалося захаваць ляснога асілка — зубра.

* Собаля і расамаху ўжо не сустрэнеце ў нашых лясах.

* На жаль, шмат якіх звяроў ужо няма. У тысяча шэсцьсот дваццаць сёмым годзе быў забіты апошні еўрапейскі тур.

* Паляванне на некаторых звяроў ужо дазволена.

6. Адкажыце на пытанні паводле тэксту М. Ткачова «Берасце».

* Як называліся тры асноўныя часткі старога Берасця?

* Колькі брамаў меў Берасцейскі замак?

* Як у 1566 годзе жыхары Берасця вызначалі час?

* Ці змянілася сістэма Берасцейскіх умацаванняў у XVII стагоддзі?

* Чым быў уражаны шведскі кароль?

* Якое збудаванне разабралі ў 1831 годзе?

***Выканайце пісьмовую работу (на выбар).***

### ВАРЫЯНТ I

Напішыце сціслы пераказ паводле апавядання У. Лідзіна, дайце яму загаловак.

Сяржант сапёрна-будаўнічага батальёна Арэф'еў расказаў вось што.

— Я вам пра хітрасць лісіцы раскажу, як яна сябе на вайне паводзіла. На Волхаўскім фронце мы наткнуліся на міннае поле. Участак для нас быў вельмі важны, бо праз яго менавіта была назначана атака. Нас паслалі зрабіць у мінным полі праход. Пра работу сапёра вы ведаеце: памыляецца ён толькі адзін раз.

А быў мароз, мяцеліца ўсё снегам укрыла. Раптам бачым — лісіныя сляды. Толькі неяк не па-лісінаму рыжая пятляла, нібы вадзіла яе з боку ў бок. Можа яна міны абыходзіла? Праверылі. Вось табе і гатовы праход. Прасунуліся праз поле па лісіным следзе, праз усё прайшлі.

Вярнуліся мы рана, дакладваем камбату, расказалі пра лісіны спрыт. Вось як звер нам дапамог.

### ВАРЫЯНТ II

Напішыце апавяданне паводле дадзенага ніжэй пачатку, ужываючы апісанне звера ці дзікай птушкі.

Раніца. Неба чыстае, трава вельмі росная, ветру амаль няма — па ўсім відаць, што будзе спякотны дзень. Я іду па беразе шырокай ракі. Іду на самае рыбнае месца, на забытыя ўсімі віры.

Толькі спусціўся ў лагчыну, як бачу...

## Тлумачэнне новай тэмы:

## Правапіс канчаткаў назоўнікаў мужчынскага роду з нулявым канчаткам і ніякага роду адзіночнага ліку

### РОДНЫ СКЛОН

I. Назоўнікі мужчынскага роду з нулявым канчаткам у родным склоне ў залежнасці ад лексічнага значэння маюць канчаткі *-а (-я)*, *-у (-ю)*.

Канчаткі *-а (-я)* маюць назоўнікі, якія абазначаюць:

а) асоб, жывых істот, а таксама часткі цела чалавека і жывёл: *брата, Івана, мядзведзя, шчупака, локця;*

б) канкрэтныя прадметы рэчаіснасці, якія можна лічыць: *дома, стала, сшытка, алоўка;*

в) навуковыя тэрміны: *плюса, ромба, косінуса, дзейніка;*

г) прадпрыемствы, установы, грамадскія арганізацыі: *завода, камбіната, інстытута, прафсаюза;*

д) геаграфічныя і астранамічныя назвы, населішчы: *Нёмана, Брэста, Юпітэра, горада, хутара;*

е) пэўныя прамежкі часу, грашовыя адзінкі, меры вагі і інш.: *года, тыдня, рубля, кілаграма, метра.*

Усе назоўнікі ніякага роду ў родным склоне таксама маюць канчаткі *-а (-я): возера, неба, мора, поля.*

II. Канчаткі *-у (-ю)* маюць назоўнікі, якія абазначаюць:

а) з'явы прыроды: *ветру, снегу, сухавею, грому, туману;*

б) зборныя прадметы: *лесу, гароху, чароту;*

в) рэчывы, хімічныя элементы, матэрыялы: *цынку, азоту, кіслар振у*, *пяску, асфальту, аксаміту, шоўку;*

г) разумовыя паняцці, пачуцці, адчуванні: *болю, жалю, розуму, сораму;*

д) дзеянні, стан чалавека: *прыходу, запісу, сну, плачу, смеху;*

е) грамадскія фармацыі, вучэнні, тэорыі: *феадалізму, капіталізму, дарвінізму, рэалізму.*

Гэтыя ж канчаткі маюць назоўнікі іншых груп у складзе ўстойлівых спалучэнняў: *з году ў год, з краю ў край.*

Некаторыя назоўнікі мужчынскага роду ў залежнасці ад лексічнага значэння або стылю маўлення могуць мець паралельныя канчаткі: *-а (-я)*, *-у (-ю)*. Напрыклад, назоўнікі *вяз, клён* і інш., калі яны абазначаюць аднародную масу рэчыва (драўніну, матэрыял), ужываюцца з канчаткам *-у*; калі ж гэтымі назоўнікамі абазначаюцца канкрэтныя дрэвы, то ўжываецца канчатак *-а*, напрыклад: *цацка, зроблена з клёну*, але *з клёна апаў апошні лісток.*

III. У размоўным стылі і ў мове мастацкай літаратуры з канчаткам *-у* могуць ужывацца канкрэтныя назоўнікі пры абазначэнні месца дзеяння ці напрамку руху: *каля плоту, выйшла з дому.*

### МЕСНЫ СКЛОН

Назоўнікі мужчынскага і ніякага роду ў месным склоне адзіночнага ліку могуць мець канчаткі *-е, -і, -ы, -у (-ю)*; *-е* маюць назоўнікі з цвёрдай асновай, якія абазначаюць асобу чалавека, неадушаўлёныя з цвёрдай асновай і на *г, х*, пры гэтым цвёрды зычны пераходзіць у мяккі, а *г, х* — у *з, с: па сыне, пры салдаце, у лесе, у жыце, на беразе, у кажусе;* слова *малако* ў месным склоне мае пад націскам канчатак *-э*, а *к* чаргуецца з *ц: малацэ;*

*-і* пішацца ў назоўніках з мяккай асновай: *на кані, на полі, у галлі, у выраі;*

*-ы* пішацца пасля зацвярдзелых зычных: *у гаражы, у моры, аб зубры;*

*-у (-ю)* маюць назоўнікі з асновай мяккай, зацвярдзелай і на *г, к, х*, што абазначаюць асоб *(пры кавалю, пры кушнеру, аб пастуху)*, назоўнікі з асновай на *г, к, х*, калі няма традыцыйнага чаргавання *(на рагу, у пяску, па шляху)*, а таксама назоўнікі ў складзе ўстойлівых выразаў *(на хаду, на ляту, на віду).*

### ПРАКТЫКАВАННІ

1. Растлумачце, чаму ў адным выпадку выдзеленыя словы пішуцца з канчаткам *-а*, а ў другім — з *-у*.

Лісце *дуба* доўга не ападае.
Міхась купіў лодку з *дубу*.
Мы вас пачакаем каля *пад'езда*.
Да вашага дома няма *пад'езду*.
Дзеці бегаюць каля *ясеня*.
Лыжкі зроблены з *ясеню*.

2. Словы, запісаныя ў дужках, пастаўце ў патрэбнай граматычнай форме і растлумачце правапіс канчаткаў.

Прыехаў з (Брэст), гурбы (снег), мяшок (цукар), ускраек (лес), тона (хлеб), літр (квас), вуліца (горад), пах (бэз), рогі (алень), зараснікі (лазняк), шмат (час), новага (дом), да самага (ганак), метр (паркаль), вядро (торф), сігналы з (Марс), святло (Месяц).

З трыма словазлучэннямі (на выбар) складзіце сказы і запішыце іх.

*З. КАПЫСКІ, П. ЛОЙКА, Г. САГАНОВІЧ, М. СПІРЫДОНАЎ*

# Беларусы: росквіт феадальнага грамадства, працяг барацьбы за незалежнасць дзяржавы.

## (XVI — першая палавіна XVII стагоддзя)

(Мы працягваем друкаваць раздзелы з вучэбнага дапаможніка для вайскоўцаў «Гісторыя Беларусі»).

Асновай сельскай гаспадаркі тады было земляробства. Але важнае значэнне адыгрывала і жывёлагадоўля. У якасці дапаможных заняткаў развіваліся разнастайныя промыслы

Галоўны сродак вытворчасці — зямля — знаходзіўся ва ўласнасці феадалаў (свецкіх і духоўных). Яна была матэрыяльнай асновай іх эканамічнага і палітычнага панавання.

Да пачатку XV стагоддзя свецкія феадалы, якімі з'яўляліся воіны-рыцары, называліся баярамі. Пазней пашыраюцца польскія назвы свецкіх феадалаў — шляхціцы і зямяне. Нашчадкі Рурыкавічаў, Гедымінавічаў і іншых родаў захоўвалі тытул «князь», а тыя феадалы, якія займалі важныя пасады ў дзяржаўным апараце, атрымлівалі тытул «пан». Асноўная маса шляхціцаў Беларусі — беларусы, якія спавядалі праваслаўе.

У сярэдзіне XVI стагоддзя на Беларусі налічвалася прыблізна 162 тыс. феадалаў (9 працэнтаў усяго яе насельніцтва), яны складалі амаль палавіну ўсіх феадалаў Вялікага княства. Найбуйнейшым феадалам заставалася дзяржава. Поруч з зямельнай уласнасцю свецкіх феадалаў на Беларусі развівалася і землеўладанне вышэйшага духавенства і асабліва карпаратыўных духоўных феадалаў: праваслаўных і каталіцкіх біскупстваў, манастыроў і цэркваў.

У XIV—XVI стагоддзях на Беларусі працягвала развівацца панская гаспадарка, якая вялася пры ўсіх «дварах» — адміністрацыйна-гаспадарчых цэнтрах маёнткаў. Прыкладна да сярэдзіны XV ст. яна мела выключна натуральны характар, таму што задавальняла толькі асабістыя патрэбы феадалаў, але ў далейшым з пашырэннем сувязей феадальнай эканомікі з унутраным і знешнім рынкамі пачынаецца рэарганізацыя панскай гаспадаркі ў фальварак.

Сяляне («людзі», «мужыкі» ці «падданыя») складалі асноўнае вытворчае саслоўе феадальнага грамадства. Асноўнай вытворчай ячэйкай сельскай гаспадаркі з'яўлялася гаспадарка селяніна («дым»). Гаспадаркі аднаго сяла складалі суседскую сельскую абшчыну, а некалькі бліжэйшых вёсак, якія належалі аднаму пану, — валасную абшчыну. Кожная сялянская гаспадарка мела зямлю, якой сялян надзялялі феадалы-землеўласнікі.

Прыкладна да канца XV стагоддзя асноўнай формай феадальнай рэнты была даніна прадукцыяй сялянскіх гаспадарак (збожжа, куры, мёд, футра і інш.), а пераважнай катэгорыяй сялянства па характары галоўнай павіннасці з'яўляліся даннікі («людзі данныя»), адзінкай абкладання якіх служыў «дым» (у сярэднім — паўвалокі, ці 10,6 га зямлі). Аднак члены сельскіх і валасных абшчын («валашчане») неслі калектыўную адказнасць за спраўнае выкананне павіннасцей. Асаблівую групу даннікаў складалі сяляне-«дольнікі», галоўнай павіннасцю якіх была даніна чацвёртай часткі («долі») ураджаю. Дольнікі былі адной з асноўных катэгорый сялянства Падзвіння.

У XIV—XVI стагоддзях на Беларусі пашыраецца паншчына, якая складалася з разнастайных работ («службы цяглай») сялян на паноў: узворвання, баранавання, сяўбы, жніва і інш. Сяляне, галоўнай павіннасцю якіх была такая служба, звычайна называліся «людзьмі цяглымі».

Да аграрнай рэформы сярэдзіны XVI стагоддзя асноўнай адзінкай абкладання цяглых сялян павіннасцямі з'яўлялася служба. У XVI стагоддзі адну службу выконвалі ў сярэднім два-тры «дымы», гаспадары якіх часта былі сваякамі.

Узмацненне сувязей сельскай гаспадаркі з унутраным і знешнім рынкамі абумовіла таксама значнае пашырэнне грашовай рэнты. Да сярэдзіны XVI стагоддзя яна стала галоўнай павіннасцю катэгоры «людзей кунічных», «асадных», або «чыншавых». Ва ўмовах панавання натуральнай гаспадаркі для значнай часткі сялянства галоўнай павіннасцю былі разнастайныя спецыяльныя службы. Такія сяляне складалі катэгорыю сялян-слуг. Да іх, у прыватнасці, адносіліся і ваенныя слугі (панцырныя, путныя і інш. слугі-баяры).

Звычайна разам з галоўнымі павіннасцямі сяляне выконвалі яшчэ шэраг іншых павіннасцей («талокі» — сельскагаспадарчыя работы ў фальварках, да 12 дзён летам; даніны, або «дзякла», жытам, аўсом, курамі, яйкамі, гусямі, сенам і інш.), у тым ліку дадатковых (будаўніцтва, рамонт і варта панскіх двароў, перавозка грузаў і інш.).

Такім чынам, пад уздзеяннем развіцця таварна-грашовых адносін да сярэдзіны XVI ст. у асноўным завяршылася першасная рэарганізацыя архаічнай сістэмы феадальнай эксплуатацыі сялянства. Але сістэма землеўладання сялянства Беларусі, абкладання яго павіннасцямі ўсё роўна толькі прыблізна ўлічвала рэсурсы адзінак абкладання. Таму яна стала для феадалаў перашкодай на шляху да павелічэння даходаў. У сярэдзіне XVI ст. гэта абумовіла аграрную рэформу, якая ажыццяўлялася перш за ўсё ў маёнтках гаспадара і іншых буйных феадалаў шляхам вымярэння зямлі на валокі (30 моргаў, або 21,36 га), вызначэння якасці глебы і ўвядзення валокі ў якасці асноўнай адзінкі абкладання.

У крыніцах комплекс гэтых мерапрыемстваў называецца тэрмінам «памера валочная». З кожнай валокі зямлі былі ўстаноўлены дакладна вызначаныя віды і нормы павіннасцей. Віды ўсіх павіннасцей залежалі ад характару валок, а нормы — ад якасці зямлі. Апошняя падзялялася на чатыры катэгорыі: «добрая», «сярэдняя», «дрэнная» і «вельмі дрэнная».

На Беларусі з сярэдзіны XV ст. існавалі тры асноўныя катэгорыі эксплуатуемага насельніцтва: «людзі пахожыя», або «вольныя»; «людзі непахожыя», або «атчызныя» («отчычы»); «чэлядзь нявольная» (рабы) і «закупы».

Узмацненне ўсіх форм феадальнага прыгнёту, якое суправаджалася пагаршэннем становішча сялянства, з'яўлялася галоўнай прычынай далейшага абвастрэння сацыяльных супярэчнасцей. Гэта адлюстравалася ва ўзмацненні барацьбы сялянства. Асноўнымі напрамкамі сялянскага супраціўлення былі барацьба за лепшую забяспечанасць гаспадарак зямлёй, за абмежаванне феадальнай эксплуатацыі, за захаванне волі і змякчэнне рэжыму прыгоннага права. Сяляне выкарыстоўвалі розныя формы барацьбы. Найбольш распаўсюджаны былі скаргі, адмовы выконваць устаноўленыя павіннасці, уцёкі непахожых сялян, нявольнай чэлядзі ад сваіх паноў, а часам і дзеянні разбойніцкага характару. Менавіта такі характар мела першае на Беларусі ўзброенае выступленне ў 1561—1569 гг. сялян былой гаспадарскай вёскі Свіслацкай воласці Багушэвічы пры актыўнай падтрымцы сялян суседняй вёскі Задобрычы.

У XIV—XVI стагоддзях на Беларусі ішоў інтэнсіўны працэс урбанізацыі грамадства. Калі да 1500 г. крыніцы змяшчаюць звесткі аб 83 гарадах ВКЛ, то з 1500 па 1600 г. тут налічваецца 530 гарадскіх пасяленняў.

Беларускі горад феадальнай эпохі ўяўляў сабой невялікае паселішча, якое налічвала ад 1,5 да 3 тысяч жыхароў. Горад з насельніцтвам у 10 і болей тысяч — рэдкае выключэнне. Грамата вялікага князя Казіміра 1444 г. вылучала ва ўсёй дзяржаве 15 «лепшых» гарадоў. У іх ліку былі названы Бярэсце, Віцебск, Гародня, Драгічын, Менск, Навагрудак, Полацк, Слуцк.

Сярод беларускіх гарадоў таго часу ў гаспадарчым, палітычным і культурным жыцці грамадства вызначаўся Полацк, і, як сведчыць грамата полацкага ваяводы 1467 г., палачане з гонарам заяўлялі, што іх горад «места славутае», нічым не саступае сталіцы ВКЛ — Вільні.

Існаванне горада ў якасці самастойнай сацыяльна-эканамічнай рэаліі феадальнага грамадства, у якасці цэнтра развіцця культуры стала магчымым, дзякуючы ператварэнню яго ў цэнтр рамяства і гандлю. Дакументы вылучаюць у якасці цэнтраў разнастайнай рамеснай вытворчасці Бярэсце, Гародню, Слуцк, Менск, Полацк, Магілёў, Пінск. У кожным з гэтых гарадоў рамяство было прадстаўлена некалькімі дзесяткамі прафесій. У меншых гарадах — Нясвіжы, Копысі, Шклове, Клецку ды іншых — рамесніцтва было занята ад некалькіх дзесяткаў майстроў да 200 і больш.

Умовы феадальнай эпохі спарадзілі карпаратыўную арганізацыю рамеснай вытворчасці і рамеснікаў — цэхі. Карпарацыі рамеснікаў у гарадах Беларусі існавалі ўжо ў першай палавіне XVI ст. пад сваімі мясцовымі назвамі: «сотні» ў Гародні, «брацтвы» ў Полацку, Менску, старосты — у Магілёве. Але пазней усюды замацавалася назва «цэх».

Цэнтральнай фігурай у гандлі быў гараджанін — купец. Гандлёвая частка гарадскога насельніцтва была прадстаўлена некалькімі групамі. Яе багатыя вярхі складалі купцы, якія займаліся замежным гандлем, — «госці», што мелі трывалыя сувязі з Масквою, Ноўгарадам, Псковам, Варшавай, Познанню, Рыгай, Кралеўцам. Купец-госць ператварыў тракты-гасцінцы Беларусі ў артэрыі, якія звязвалі Заходнюю Еўропу з Вялікім княствам Маскоўскім.

Ужо ў канцы XIV ст. вялікі князь літоўскі выдаваў гарадам даравальныя граматы на магдэбургскае права, паводле якога гараджане вызваляліся ад шэрагу феадальных павіннасцей, маглі займацца рамяством, гандлем ці земляробствам, атрымлівалі права выбіраць гарадскі орган улады — магістрат, суд, ствараць рамесныя аб'яднанні — цэхі. У XIV—XVI стагоддзях самакіраваннем карысталіся Бярэсце, Гародня, Полацк, Менск, Драгічын, Навагрудак, Магілёў, Віцебск, Пінск, Орша, Ваўкавыск і інш. Магнаты — уладальнікі гарадоў — таксама даравалі гэтае права сваім гарадам і мястэчкам.

Калі ў 1558 г. Маскоўская дзяржава распачала вайну з Лівонскім ордэнам, магістр ордэна папрасіў дапамогі ў Вялікага княства Літоўскага. Паводле Віленскага пагаднення, княства брала Лівонію пад сваю апеку і патрабавала ад цара Івана IV вывесці адтуль войскі. Цар катэгарычна адмовіўся. На абарону Лівоніі былі накіраваны ўзброеныя сілы ВКЛ. З восені 1561 г. Лівонія стала цалкам падпарадкоўвацца Вільні. Вось тады Іван IV пачаў пасылаць ваявод на беларускія землі. Ужо на пачатку 1562 г. царскае войска спустошыла Мсціслаўшчыну, хадзіла на Дуброўну, Копысь, Оршу, Шклоў, Віцебск. Пад Невелем дайшло да вялікай сечы, у якой 4-тысячны беларуска-літоўскі корпус разбіў 15-тысячную групоўку рускага-літоўскі корпус разбіў 15-тысячную групоўку рускага ваяводы А. Курбскага.

Зімой наступнага года, афіцыйна не абвяшчаючы вайны, Іван IV з 60-тысячным войскам з'явіўся пад Полацкам. Горад абараняў маленькі гарнізон, які мужна адбіваўся. Праз два тыдні знясілены Полацк здаўся. Царскія ратнікі кінуліся рабаваць горад, а каля 12 тысяч палачанаў, амаль усю полацкую шляхту павялі ў Маскву. Туды ж перавезлі гарадскую скарбніцу, золата, срэбра ды іншыя каштоўнасці. Полацкіх яўрэяў цар загадаў утапіць, каталікоў — пазабіваць, а храмы іх папаліць.

Княства было ашаломлена стратай Полацка. Пад акупацыю трапіла палавіна Полацкай зямлі. Гаспадар Жыгімонт Аўгуст тады знаходзіўся ў Кракаве, і абаронай краіны займаліся паны-рада. Па іх прапанове Іван IV неўзабаве пагадзіўся на перамір'е да жніўня 1563 г. Пазней перамір'е было прадоўжана яшчэ. Але перамовы зайшлі ў тупік, бо Масква не хацела саступаць захопленай Полацкай зямлі, і ў студзені 1564 г. узнавіліся ваенныя дзеянні. Са Смаленска да Оршы рушыла 50-тысячная групоўка братоў Сярэбраных, а з Полацка насустрач пайшло войска князя П. Шуйскага (24 тыс. чалавек). Яны мелі загад злучыцца, а пасля захапіць Менск і Навагрудак.

Пад Чашнікамі корпус Шуйскага быў сустрэты ўдвая меншым войскам ВКЛ, якім кіравалі М. Радзівіл і Р. Сангушка. Бітва адбылася 26 студзеня і скончылася поўным разгромам рускага корпуса.

Нейкі час абодва бакі праводзілі рэйды на тэрыторыю праціўніка: маскоўскае войска — да Віцебшчыны і Падняпроўя, а харугвы княства, спрабуючы вярнуць Полацк, хадзілі да Пскова, Вялікіх Лукаў, Чарнігава. Толькі ў жніўні 1565 г. ваенныя дзеянні перапыніліся.

Спяшаючыся ўмацавацца на занятай зямлі, царскія ваяводы пачалі будаваць на Полаччыне новыя замкі. Жыгімонт Аўгуст абураўся, пратэставаў супраць будаўніцтва маскоўскіх замкаў на тэрыторыі яго дзяржавы, а Іван IV адказваў, што Полаччына — яго вотчына. Летам 1567 г. харугвы княства разграмілі 8-тысячны маскоўскі корпус, які ахоўваў будаўніцтва замка на возеры Суша. Якраз тады сарваўся чарговы этап перамоваў, і ваенныя дзеянні зноў актывізаваліся.

ВКЛ абвясціла паспалітае рушэнне (агульная вайсковая мабілізацыя шляхты). Увосень 1567 г. пад Маладзечнам сабралася 50 тысяч жаўнераў, 100 гармат. Планавалася ажыццявіць паход у глыб Маскоўскай дзяржавы, каб перанесці ваенныя дзеянні на яе тэрыторыю. Але паход сарваўся, бо цар з магутным войскам знаходзіўся каля Вялікіх Лукаў і пагражаў беларускім землям з поўначы. Баючыся агаляць тылы, армія ВКЛ доўга стаяла пад Радашковічамі, затым — каля Барысава. Корпус Хадкевіча спрабаваў здабыць

Улу, але не здолеў. Добра падрыхтаваная буйнамаштабная акцыя ВКЛ не ўдалася.

Ваенныя цяжкасці сталі важнай прычынай, якая падштурхнула Княства да дзяржаўнага аб'яднання з Польшчай. Акт Люблінскага сойму, прыняты 1 ліпеня 1569 г., злучыў Княства і Карону ў адну федэратыўную дзяржаву — Рэч Паспалітую. Аднак спадзяванні на польскую дапамогу ў вайне супраць Івана IV не спраўдзіліся. Не маючы сіл адваяваць страчаныя землі самастойна, ВКЛ пайшло на чарговыя перамовы з Масквой. *(Заканчэнне будзе).*

**(Матэрыял значна скарочаны, да друку тэкст падрыхтаваў М. Віж).**




*Рубрыку вядзе*

*Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

Адной з найбуйнейшых постацей у маладой літаратуры Злучаных Штатаў Амерыкі быў выдатны паэт Генры Уодсварт Лангфэла (1807—1882), аўтар славутага «Спеву аб Гаяваце» і некалькіх зборнікаў самабытных вершаў.

*Генры Уодсварт ЛАНГФЭЛА*

## Страла і песня

Пусціў аднойчы я стралу —
Яна упала на зямлю;
Мне невядома, дзе лягла,
Якую даль крануць магла.

Стварыў аднойчы песню я,
Яе падслухала зямля;
Не знаю, трапіла куды:
Ці на сяло, ці ў гарады.

Гадоў праз дзесяць ці праз пяць
Стралу і песню стаў шукаць:
Знайшоў стралу сярод дуброў,
А песню — ў сэрцы у сяброў.

## У вячэрнім змроку

Вечар халодны і хмарны,
Вецер падняўся на бой.
Крыламі чаіц імклівых
Пырскае белы прыбой.

Сціпіна ў рыбацкай хаце,
Цьмяна газнічка гарыць.
Там пры акенцы дзяўчынка,
Як нежывая, сядзіць.

Пільна ўглядаецца ў цемру:
Вочкі шукаюць кагось:
Ці не прыстане на бераг
Доўгачаканы госць?

Ходзіць па хаце жанчына —
Цень яе следам бяжыць:
То дасягае да столі,
То на падлозе дрыжыць.

Вецер у шыбу грукоча,
Казачны сцеле туман.
Жудасна беднай дзяўчынцы —
Глуха шуміць акіян.

Вецер шалёна енчыць,
Вал набягае здалёк:
Рынуўся ў матчына сэрца,
Колеры змыў са шчок.

Пераклад з англійскай Юркі ГАЎРУКА.

# „BELARUSIAN REVIEW“, Vol.4, No.4 Winter 1992—93

На першай старонцы нумара змешчаны Зварот да Прэзідэнта ЗША Біла Клінтана, у якім рэдакцыя выказвае спадзяванне, што адміністрацыя Клінтана па-новаму паставіцца да сітуацыі ў Беларусі і ўсяляк будзе спрыяць яе развіццю на шляху да дэмакратыі, свабоды і рыначнай эканомікі.

Арт Турэвіч у сваім артыкуле «Беларусь у 1992 г.» прапанаваў англамоўным чытачам кароткі агляд падзей у Беларусі ў мінулым годзе.

Ён спыніўся на выніках работы парламента, коратка расказаў пра дасягненні рэспублікі ў знешняй палітыцы, паведаміў пра важныя змены, якія адбыліся ва ўсіх сферах жыцця рэспублікі: эканоміцы, культуры, гісторыі, рэлігіі, спорце.

Рэдактар часопіса Дж. Прайс расказаў на яго старонках пра тыя перспектывы, якія адкрываюцца перад «Беларускім аглядам». Ён выказаў спадзяванне, што ў будучым часопіс атрымае мацнейшую падтрымку з боку беларускіх арганізацый усяго свету — грамадскіх, палітычных, культурных і царкоўных, а таксама запэўніў чытачоў, што «Беларускі агляд» будзе і надалей дапамагаць Беларусі наладжваць кантакты са знешнім светам. Безумоўна, значнай увагі заслугоўвае артыкул А. Арцюха «Беларусь і Аб'яднаныя Нацыі», у якім ён коратка звяртаецца да гісторыі ўзнікнення Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, расказвае пра вядомага беларускага паэта Генадзя Бураўкіна — пасла Беларусі пры ААН, а таксама пра прадстаўніцтва Беларусі ў ААН.

У нумары змешчаны публікацыя Дж. Прайса і Я. Крэўскага «Пара дэрусіфікаваць беларускія назвы», а таксама артыкул Г. Русак «Марк Шагал — нараджэнні Беларусі». Пад рубрыкай «Рэспубліканскія лідэры ацэньваюць сітуацыю ў Беларусі» рэдакцыя апублікавала выступленне прэм'ер-міністра Вячаслава Кебіча на сустрэчы з беларускай інтэлігенцыяй у Міры 21 снежня 1992 г., інтэрв'ю з лідэрам апазіцыі, народным дэпутатам Зянонам Пазьняком, якое друкавалася ў газеце «Москау Ньюс» за 29 лістапада — 6 снежня 1992 г., і інтэрв'ю са Старшынёй Вярхоўнага Савета Станіславам Шушкевічам, змешчанае ў «Звяздзе» за 12 снежня 1992 г.

У нумары да ўвагі чытачоў прапанавана інфармацыя з жыцця беларускага замежжа, друкуюцца падборкі лістоў, дасланых у рэдакцыю.

Л. БАРШЧЭЎСКАЯ.

## Не дуры Маскву, або Этнічныя стэрэатыпы беларусаў

Кажуць, што фальклор беларусаў адзін з найбагацейшых у свеце. Яно і зразумела. Народ, пісьмовая мова якога доўгі час была афіцыйна забаронена, знайшоў адзіны спосаб захаваць і пранесці праз стагоддзі творы лепшых сваіх прадстаўнікоў — у мове вуснай. Так з'явіліся шматлікія песні, казкі, паданні, прыказкі. Але ўсе гэтыя жанры (таксама, як і багаты спектр іх тэм) у невялічкім артыкуле закрануць немагчыма. Спынімся лепш на прыказках. Прычым падабраны яны на вельмі тонкую, далікатную тэму — нацыянальную. Таму шчырая просьба да прадстаўнікоў іншых нацый: не крыўдуйце! Нават калі прыказкі гэтыя і будуць здавацца вам абразлівымі. Бо яны — творчасць беларускага народа. Наша спадчына.

Такім чынам, як жа беларусы адлюстроўвалі сваё стаўленне да другіх народаў у прыказках?

Дзіўна, але найбольш непрыязна нашы продкі ставіліся да рускіх (маскалёў): «— Тату, тату! Чорт лезе ў хату!—Дарма, абы не маскаль». Увогуле ж «маскалі» паўстаюць з прыказак і жорсткімі («Масква слязам не верыць») і невукамі («Не дуры Маскву: яна і так дурная»).

Тлумачэнні гэтаму абразліваму тону ёсць: на працягу XIX стагоддзя (а менавіта гэтым часам датуюцца ўсе прыведзеныя ў артыкуле прыказкі) беларусы сустракаліся, бадай, толькі з рускімі памешчыкамі, чыноўнікамі, паліцэйскімі ды жаўнерамі. Прычым відома, што звычайна ў «Северо-Западный край» ехалі людзі далёка не лепшых маральных якасцей. А калі дадаць яшчэ «гістарычную памяць» («Стуль маскалі, а згэтуль швэды — няма дзе дзецца з гэтай беды»), дык становіцца зразумелым: рускіх і сапраўды паважаць не было за што.

Не любілі на Беларусі і палякаў (ляхаў, мазуроў): «Мудзер лях на шкоду», «Мазур анно на гулянне зух»...

Адносіны да яўрэяў (жыдоў) таксама былі не заўсёды добрымі. Пра гэты народ існавала шмат прыказак, але лейтматыў іх адзіны — «хочуць жыць за кошт беларуса». Разам з тым трэба заўважыць, што ў гэтых прыказках беларусы іранізавалі і над сабой: «Хоць жыда і лаеш, а зімой да яго пабяжыш». Дарэчы, беларусы з яўрэямі заўсёды жылі мірна, і нават яўрэйскія пагромы 1905 года ў Оршы, Гомелі і Полацку здзяйсняліся не беларусамі, а выключна стараверамі ды «чарнасоценцамі» з расейцаў.

З немцаў, якіх на Беларусі было нямала (нават адзін раён Вільні меў назву Нямецкая Слабада), нашы продкі пакепліваі: «У немцаў тэды свята, калі працы няма, і тэды пост, калі мяса няма». Смяяліся і з літоўцаў: «На Жмудзі і куры людзі». Цыган («нячыстую сілу») баяліся і не любілі: «Каму што, а цыгану сала». Затое, у адрозненне ад расейцаў, беларусы даволі прыязна ставіліся да татараў, якія, як вядома, жылі на захадзе Беларусі: «Татары — добрыя гаспадары».

Месца ў беларускім фальклоры знаходзіцца ўсім суседзям (і не толькі суседзям), акрамя... украінцаў. Пра іх у мінулым стагоддзі на Беларусі не склалі ніводнай прыказкі. Хутчэй за ўсё, прычына ў тым, што Беларусь і Украіну раздзяляюць балоты Палесся, таму і сувязі між абодвума народамі былі нямоцнымі...

Калі рабіць высновы з усяго сказанага вышэй, можна смела зазначыць, што ў беларусаў ужо ў XIX стагоддзі выразна выявіліся адносіны да іншых народаў, гэтак званыя «этнічныя стэрэатыпы». І калі сёння раз-пораз чуеш, што беларусы — нацыя штучная, выдуманая на пачатку нашага стагоддзя купкай вар'ятаў, хочацца параіць гэтым апалагетам «единой и неделимой Руси» звярнуцца да беларускага фальклору.

Сяргей ГРЫБ.

г. Магілёў. «Ратуша», 1993, № 10.

## *Мама, пачытай!*

*Пятро СУШКО*

### Збірала вавёрка арэшкі

Ад вёскі да лесу
Лагчынкай
Ішлі цераз поле
Дзяўчынкі,

А ў сонечным лесе
Ля сцяжкі
Збірала вавёрка
Арэшкі,
На цёмназялёную хвою
Насіла ў дупло іх сухое...
З кусточка апошняга
Зносіць
І ў госці
Дзяўчынак запросіць.



*Міра ЛУКША*

### Кот Мікіта

Коцік маркотны,
Кату не спіцца...
Быў бестурботны —
Пара жаніцца.

Котка-мамуля
Ходзіць ля печы.
Хоча палюляць
Унукаў-малечаў...

І кот Мікіта
Выбраў за жонку
Мурку-Муркіту
З вёскі Палонкі.

Рада мамуля,
Рады суседкі...
Мы на вяселле
Пойдзем у сведкі!

*Міхась ПАЗНЯКОЎ*

◆◆◆

Вам першаю паловай
Паўстану дрэвам я
Лісцевым.
А другой —
Ваду згадаю,
Закіпеўшаю для чаю.

Увесь —
Падручнік знакаміты,
Усіх знаёмлю
З алфавітам.
У першы клас я
Запрашаю,
Шлях у навуку
Адкрываю.

*(Бук- вар.)*




*Алена*

*ШАРЭПА-ЛАПІЦКАЯ*

### Бацян

Кля-кля-кля!
Кля-кля-кля!
Прыляцеў
Урэшце я!

Я — Бацян,
вялікі пан,
Белы апрануў
жупан.

І хаджу
па ўсіх балотах
У чырвоных
новых ботах.

Я — вышэйшы,
Я — дужэйшы,
Я — за ўсіх
найпрыгажэйшы!



## Майстры



Васіль Рыгоравіч Крыштальны мае рэдкую прафесію: мастак, які распісвае абразы. Зараз ён працуе ў Свята-Мікалаеўскай царкве. Найбольш складаная частка работы — роспіс алтара, столі — ужо зроблена.

НА ЗДЫМКУ: Васіль Крыштальны (з правага боку) з памочнікам Міколам Стацюком.

Фота Эдуарда КАБЯКА.
Белинфарм.

## У сакратарыяце ТБМ імя Ф. СКАРЫНЫ

23 красавіка г. г. адбылося першае пасяджэнне сакратарыята ТБМ у новым складзе.

Разгледжаны наступныя пытанні:

— Арганізацыйнае (размеркаванне абавязкаў паміж намеснікамі старшыні ТБМ);

— Аб фінансавым становішчы ТБМ. Паведамленне зрабіла галоўны скарбнік Таварыства Вольга Зайцава;

— Аб асноўных накірунках работы рэвізійнай камісіі ТБМ. З паведамленнем выступіў старшыня камісіі Мікола Лавіцкі;

— Аб падрыхтоўцы да навукова-метадычнай канферэнцыі на тэму «Актуальныя праблемы беларускамоўнага выкладання тэхнічных і прыродазнаўчых дысцыплін у ВНУ», якая адбудзецца ў Менску ў памяшканні радыётэхнічнага інстытута 4—5 мая г. г. Паведаміў член аргкамітэта, старшыня Менскай гарадской арганізацыі ТБМ Мікола Савіцкі.

Акрамя таго, на сакратарыяце разгледжаны шэраг бягучых пытанняў жыцця ТБМ. У прыватнасці, зарэгістраваны суполка, якую стварылі беларусы ў Ашгабадзе (галоўнай тэмай сябры суполкі ставяць далучэнне беларусаў, якія жывуць у Туркменістане, да скарбаў культуры Бацькаўшчыны, выхаванне ў суайчыннікаў нацыянальнай свядомасці), а таксама творчая суполка навукова-вытворчай фірмы — «Беларуская школа», якую ўзначальвае сябра Рэспубліканскай Рады ТБМ Мікола Мінзер.

Сакратарыят прыняў рашэнне давесці да ведама ўсіх арганізацый і суполак ТБМ Рэкамендацыі аб асноўных напрамках дзейнасці на бліжэйшы час і прыкладны план работы сакратарыята ТБМ да канца года.

### *РЭКАМЕНДАЦЫІ*
### *арганізацыям ТБМ аб асноўных напрамках дзейнасці на бліжэйшы час*

1. Ствараць камісіі ў рэгіянальных арганізацыях ТБМ на аснове складу камісій, зацверджанаму Рэспубліканскай Радай ТБМ, і ў адпаведнасці з мясцовымі ўмовамі.
2. Ствараць грамадскія (грамадска-дзяржаўныя) метадычна-арганізацыйныя групы па ажыццяўленні адзінай моўнай палітыкі ў раёне (горадзе, вобласці).
3. Правесці абласныя канферэнцыі па стварэнні абласных арганізацый ТБМ.
4. Выступіць з ініцыятывай стаць сузаснавальнікамі рэгіянальных сродкаў масавай інфармацыі (газеты, радыё, тэлебачанне).
5. Садзейнічаць павелічэнню падпісчыкаў на газету «Наша слова», стварэнню сеткі ўласных (на грамадскіх пачатках) карэспандэнтаў гэтай газеты.
6. Мабілізаваць намаганні суполак ТБМ і яго прыхільнікаў у рэгіёне дзеля абароны роднай мовы як адзінай дзяржаўнай мовы ў нашай краіне.

### *ПЛАН РАБОТЫ САКРАТАРЫЯТА ТБМ ДА КАНЦА ГОДА*

ТРАВЕНЬ

Удзел у навукова-метадычнай канферэнцыі «Актуальныя праблемы беларускамоўнага выкладання тэхнічных і прыродазнаўчых дысцыплін у ВНУ». (Інфармацыя аб гэтай канферэнцыі была змешчана ў газеце «Наша слова», № 5, 3 лютага 1993 г.)

«Круглы стол» з кіраўнікамі арганізацый заснавальнікаў ТБМ з мэтай каардынацыі сумеснай дзейнасці і ажыццяўлення Закона аб мовах.

ЛІПЕНЬ

Удзел у Першым з'ездзе беларусаў свету.

ЖНІВЕНЬ

Удзел у жнівеньскіх настаўніцкіх педагагічных нарадах.

ВЕРАСЕНЬ

Рэспубліканская канферэнцыя ТБМ, прысвечаная 3-й гадавіне ўвядзення ў дзеянне Закона аб мовах, на тэму: «Мова нацыі — мова дзяржавы, год за годам».

ЛІСТАПАД — СНЕЖАНЬ

Рэспубліканская канферэнцыя ТБМ на тэму: «Тапаніміка — мова зямлі».

*Сакратарыят вёў Старшыня ТБМ імя Ф. Скарыны Ніл Гілевіч.*

### Віншуем!

Старэйшай беларускай пісьменніцы Ніне Барысаўне Ватацы споўнілася 85 гадоў. Яе галоўныя заслугі — у галіне бібліяграфіі і літаратуразнаўства. Склала паказальнікі твораў і крытычнай літаратуры па творчасці Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, К. Чорнага, К. Крапівы, М. Лынькова, П. Панчанкі, многіх іншых пісьменнікаў, а таксама тэматычныя бібліяграфіі па мастацкай літаратуры, крытыцы, драматургіі, літаратуразнаўству. Неацэнным укладам Н. Ватацы ў навуку сталі яе кнігі і публікацыі, прысвечаныя жыццю і творчасці Максіма Багдановіча — зборнік «Шлях паэта» (Успаміны, пісьмы. Біяграфічныя матэрыялы, 1975) і кніга гісторыка-літаратурных артыкулаў «Шляхі» (1986) — з апошнім звязаны важныя навуковыя і тэксталагічныя адкрыцці даследчыцы. Сабраныя Нінай Барысаўнай каштоўныя матэрыялы — невядомыя аўтографы і публікацыі паэта, прыжыццёвыя зборнікі «Вянка», сямейныя дакументы і фатаграфіі, іншыя рэліквіі ляглі ў залаты фонд Багдановічаніны.

Супрацоўнікі газеты «Наша слова»

## Народная лякарня

### *Д. ДЖАРВІС:*
### *Першы паказчык вашага здароўя*

Першым паказчыкам здароўя з'яўляецца мача. Народная медыцына лічыць, што па рэакцыі мачы заўсёды можна вызначыць, хворы чалавек ці здаровы. Прыкметай захворвання з'яўляецца шчолачная рэакцыя.

Каб выявіць, на фоне якой рэакцыі мачы — кіслай (нармальнай) або шчолачнай — праяўляецца хвароба, Джарвіс правёў шэраг доследаў на дзецях і дарослых. Назіранні вяліся 2 гады. Штодзённа ў паддоследных правяраліся тэмпература, крывяны ціск, пульс, частата дыхання, стан носа і горла, работа кішэчніка, рэакцыя мачы, працягласць сну і іншыя паказчыкі. Вучонаму стала бачна, што рэакцыя мачы ў дзяцей ад кіслай да шчолачнай мянялася кожны раз перад пачаткам якога-небудзь захворвання, напрыклад, адзёру або вятранкі. Прычым мача станавілася шчолачнай яшчэ ў перыяд скрытай формы хваробы, да з'яўлення яе першых сімптомаў. Першае назіранне было зроблена ў сувязі са звычайнай прастудай. Прымяняючы метады тэрапіі, якія дазвалялі змяняць рэакцыю мачы ад шчолачнай да кіслай, Джарвіс стымуляваў збаўленне ад хваробы. Дзіцячая хвароба або зусім не праяўлялася, або праходзіла ў лёгкай форме. Затым Джарвіс устанавіў узаемасувязь паміж сімптомамі астмы, сянной ліхаманкі,гаймарыту, іншых хвароб і шчолачнай рэакцыяй мачы. Праз два гады эксперыментальны матэрыял даў магчымасць даследчыку адказаць на раней пастаўленае пытанне: пры якой жа рэакцыі мачы з'яўляюцца сімптомы хваробы? Адказ быў адназначны: прыкметай захворвання з'яўляецца шчолачная рэакцыя мачы ў дзвюх пробах, узятых на працягу дня. Найбольш дакладныя звесткі ўтрымлівае аналіз проб першай ранішняй мачы, паколькі яна паказвае характар рэакцыі за працяглы перыяд начнога адпачынку, і проба, узятая перад вячэрай, паколькі рэакцыя мачы паказвае ўзровень актыўнасці чалавека за дзень. Справа ў тым, што ў працэсе доследаў выявілася: рэакцыя мачы мяняецца не толькі ў сувязі з хваробай, але і ў залежнасці ад тыпу ежы, фізічнай нагрузкі, надвор'я, разумовай працы і інш. Так Джарвіс выявіў, што ў паддоследнага за два дні да пахаладання рэакцыя мачы змянялася да шчолачнай і вярталася да нормы праз дзень-два пасля істотнай перамены надвор'я. У выніку назіранняў за дзецьмі выявілася тое ж самае: калі пры адкрытых вокнах спальні паніжалася знешняя тэмпература, то рэакцыя мачы змянялася да шчолачнай. Вокны ў спальнях пачалі закрываць. Змяненне рэакцыі мачы да шчолачнай можна заўжды выклікаць, калі адкрываць у халоднае надвор'е вокны, што садзейнічае з'яўленню сімптомаў захворвання. Было выяўлена таксама, што гарачая ванна даводзіць рэакцыю мачы да нармальнай (лечыць). На аснове атрыманых дадзеных можна падвесці лагічнае медыцынскае абгрунтаванне пад метады народнай медыцыны, згодна з якімі маці, западозрыўшы, што яе дзіця нечым захварэла, дае яму гарачае піцво і робіць гарачую нажную ванну.

Правяраючы сувязь паміж фізічным станам чалавека і рэакцыяй мачы, Джарвіс вызначыў, што пры ўзнікненні пачуцця стомленасці ў чалавека змяняецца рэакцыя мачы да шчолачнай. Прычым, калі чалавек займаўся спортам, паляваннем, катаўся на лыжах, рэакцыя яго мачы заставалася кіслай. А вось цяжкая фізічная работа, якая не мела нічога агульнага са спортам і забавамі, змяняла рэакцыю мачы да шчолачнай. Таксама было заўважана, што адмоўную рэакцыю выклікаюць доўгія заняткі разумовай працай.

Калі мы страчваем дзіцячы інстынкт у выбары ежы, якая найбольш поўна адпавядае патрэбам арганізма, з пункту гледжання яго хімічнага саставу і асаблівасцей фізіялогіі, мы пазбаўляемся магчымасці дапамагчы сабе. Рэакцыя мачы можа ў нейкім сэнсе замяніць страчаны інстынкт,— сцвярджае Джарвіс. У свой час ён склаў спіс прадуктаў харчавання, якія выклікалі шчолачную рэакцыю мачы ў пацыентаў. Гэта былі перш-наперш вырабы з пшаніцы: хлеб, пячэнне, пірагі, кексы, пончыкі, смажаныя піражкі, крупы. Чарговае назіранне паказала, што калі белы, карычневы і кляновы цукар (і сок) выклікаюць шчолачную рэакцыю мачы, то мёд гэтай уласцівасці не мае. На аснове гэтага назірання можна зразумець, чаму марынаваныя агуркі, якія кансервуюцца ў воцаце, заўсёды падаюцца з прахаладным кляновым сокам. Народная медыцына тлумачыць гэта тым, што воцат выклікае змену рэакцыі мачы да кіслай і ліквідуе шкодны ўплыў кляновага цукру, які дае шчолачную рэакцыю.

Немагчыма ў межах адной кнігі спыніцца на ўсіх доследах, якія датычаць рэакцыі мачы. Перш чым працягваць абмеркаванне гэтага пытання ў сувязі са з'яўленнем сімптомаў захворвання, умовамі надвор'я, характарам ежы, станам фізічнай і разумовай стомленасці, трэба звярнуць увагу на сувязь паміж рэакцыяй мачы і болевымі адчуваннямі. Боль у поласці носа (пры гаймарыце) і пры запаленні трайчастага нерва (неўралгія твару) выклікае шчолачную рэакцыю мачы. Змяніць яе да кіслай і суцішыць боль можна, калі выпіць сем разоў штогадзіння па адной шклянцы вады з дабаўленнем адной чайнай лыжкі яблычнага воцату. Большы эфект назіраецца тады, калі падкісленую ваду піць невялікімі глыткамі, а не залпам. Пры артрыце боль у суставах рук і ног прыкметна аціхне, калі прымаць адну чайную лыжку яблычнага воцату на шклянку вады, чатыры разы ў дзень на працягу двух тыдняў.



Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.
Наш адрас: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.
Індэкс 63865.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае. Наклад 8505 паасобнікаў.

Падпісана ў друк 10.05.1993 г. у 15 гадзін.
Зак. 271.

МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка». 220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3.